**І ГЭТА ТАК!**

# Гомельскія НАВІНКІ

**Жоўтая газетка на роднай мове** за май 2016

**Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну**

**ГУМНО ГІСТАРЫЧНАЕ:**

**(Аб чым бы пісалі Гомельскія Навінкі, калі б яны з’явіліся не ў 2007 годзе)**




## Пані-садыстка з Мазырскага павета: ад учынкаў Ганараты Стоцкай з Рэмезаў кроў стыла ў жылах сучаснікаў

стар. 4

**У Гомелі суд забараніў злоснаму хуліганту наведваць бары, рэстараны і дыскатэкі**

стар. 2

**Жыхарка Гомеля ў 12-ы раз асуджаная за гандаль цукровым сіропам пад выглядам мёду**

стар. 3

**Гісторыя пад спайсам: гомельскіх студэнтаў выкралі невядомыя ў масках**

стар. 7

# Зніклы без вестак гомельскі таксіст знойдзены мёртвым

***Зніклы без вестак гомельскі таксіст знойдзены мёртвым, паведамілі ў прэс-службе УУС Гомельскага аблвыканкама.***

Цела мужчыны знайшлі яго калегі, якія самастойна арганізавалі пошукавы атрад, недалёка ад вёскі Сасноўка Гомельскага раёна. Аўтамабіля «Форд Гэлаксі» бардовага колеру, на якім таксіст адправіўся на працу, побач з ім не знойдзена. Іншыя падрабязнасці справы пакуль не выдаюцца.

На месцы здарэння працуе следча-аператыўная група, судовыя эксперты. Па факце забойства распачатая крымінальная справа.

Вядома, што мужчына паехаў на працу, праз гадзіну па тэлефоне паведаміў жонцы, што вяртаецца, аднак дадому так і не даехаў.

*БелТА*

# У Гомелі суд забараніў злоснаму хулігану наведваць бары, рэстараны і дыскатэкі

***Суд Чыгуначнага раёна Гомеля вынес прысуд мясцоваму жыхару 1991 года нараджэння, які абвінавачваўся ў злосным хуліганстве (ч. 2 арт. 339 КК).***

Малады чалавек з прыяцелямі пайшоў за півам у гіпермаркет, дзе ўчыніў бойку. Яму не спадабаўся малады мужчына, якога ён ударыў кулаком у твар. Пацярпелы пачаў уцякаць, а хуліган пераследаваў яго па гандлёвай зале, пашкоджваючы маёмасць і выстаўлены тавар. Пры гэтым ён яшчэ і распранаўся на хаду.

За злоснае хуліганства гамяльчаніну прызначана пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тры гады з адтэрміноўкай выканання пакарання на два гады, паведамляе прэс-служба Гомельскага абласнога суда.

Па прыгаворы суда абвінавачаны абавязаны паступіць на працу, не мяняць месца жыхарства без згоды органа, які ажыццяўляе кантроль за паводзінамі асуджанага; двойчы ў месяц з'яўляцца ў гэты орган для рэгістрацыі; знаходзіцца штодня па месцы жыхарства з 22 гадзін да 6 гадзін; не наведваць бары, рэстараны, дыскатэкі, іншыя грамадскія месцы, дзе спіртныя напоі прадаюцца на разліў. Таксама абвінавачаны абавязаны ў вольны ад асноўнай працы час выканаць грамадскія карысныя працы ў аб'ёме 120 гадзін.

Прысуд пакуль не набыў законную моц, можа быць абскарджаны і апратэставаны.

*БелаПАН*

# Жыхару Мазыра, які забіў уласных дзяцей, выстаўлена абвінавачванне

***Абвінавачанне ў забойстве двух чалавек выстаўлена жыхару Мазыра.***

Пра гэта паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава.

Нагадаем, трагедыя адбылася 31 студзеня. У міліцыю Мазыра патэлефанаваў мужчына, які паведаміў пра тое, што ён забіў уласных дзяцей. Гэтая інфармацыя пацвердзілася пазней: у яго кватэры знайшлі целы 9-гадовай дзяўчынкі і яе 17-гадовага брата.

Пасля здзяйснення злачынства мазыранін спрабаваў забіць сябе. Ён выкінуўся з акна, аднак застаўся жывы.

У крыві падазраванага было выяўлена 2 праміле алкаголю. Яго даставілі ў рэанімацыю са шматлікімі траўмамі галавы, таза і хрыбетніка.

У мужчыны таксама дыягнаставана наяўнасць дэлірыйнага расстройства.

*БелТА*



## Мужчыну, ад якога зацяжарыла 14-гадовая дзяўчына, выпусцілі з-за кратаў

***Гомельскі абласны суд змяніў меру пакарання 26-гадоваму Віктару, жыхару Светлагорскага раёна, якога ў студзені 2016 года асудзілі на 3 гады зняволення ўзмоцненага рэжыму за сэксуальныя зносіны з заведама малалетняй.***

Пра сітуацыю стала вядома пасля таго, як 14-гадовая дзяўчына з той жа вёскі, Наста, зацяжарыла.

Пасля вынясення прыгавору мужчына падаў касацыйную скаргу на перагляд справы. Суд адтэрмінаваў пакаранне на тры гады.

«Пракурор казаў, што прысуд мусіць застацца ў сіле. Але суддзі, сярод якіх быў малады чалавек, настаялі на адтэрміноўцы. І мы вельмі яму ўдзячныя»,— кажа Наста, якой праз месяц нараджаць. Па словах дзяўчыны, у жніўні ёй споўніцца 15 гадоў, і яны з Віктарам ажэняцца.

*Маша Калеснікава*

## Гомельскі сацработнік скрала ў падапечных 2 тыс. даляраў і 25 млн рублёў

***Суд Гомельскага раёна вынес вырак жыхарцы адной з вёсак 1981 года нараджэння, якая абвінавачваецца ў крадзяжы (артыкул 205 КК).***

Як паведаміў памочнік пракурора Гомельскага раёна Яна Зайцава, жанчына скрала 2 тысячы даляраў і 25 мільёнаў рублёў у пары пажылых людзей, якіх даглядала чатыры гады ў якасці сацыяльнага работніка.

У момант здзяйснення злачынства мужчына знаходзіўся ў шпіталі, дома была яго жонка, прыкутая да ложка. Сацыяльны работнік ведала, дзе старыя захоўваюць зберажэнні, бо час ад часу брала ў пазыку ў іх грошы. Яна ўпотай ўзяла буйную суму, якой распарадзілася па сваім меркаванні — пагасіла крэдыт у 10 мільёнаў, купіла тэлевізар, ноўтбук, камплектуючыя да яго, новую вопратку, шторы, жаночую сумачку, аплаціла арэнду кафэ для правядзення свята. На судзе патлумачыла, што ўзяла грошы, бо адчувала ў іх вострую патрэбу.

Жанчына разведзеная, яе дзіця выхоўвае муж.

Прыгавор суда — два з паловай гады пазбаўлення волі — пакуль не набыў законную моц і можа быць абскарджаны або апратэставаны.

*БелаПАН*

Калі табе патрэбная падтрымка, ты звычайна даведваешся, што ты нікому не патрэбны. Насамрэч, ты ніколі нікому не патрэбны, проста заўважаеш гэта толькі калі табе патрэбная падтрымка.

## Жыхар Светлагорска скраў у паліклініцы каля 90 бланкаў рэцэптаў на лекі

***Жыхар Светлагорска скраў з мясцовай паліклінікі каля 90 бланкаў рэцэптаў на лекі,***

паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава.

Заяву ў міліцыю аб знікненні бланкаў зрабіла загадчыца паліклінікі. Яна распавяла, што ў выходны дзень невядомы выбіў дзверы ў яе службовы кабінет і здзейсніў крадзеж. Падчас аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў быў затрыманы 26-гадовы жыхар раённага цэнтра, раней судзімы за распаўсюд наркотыкаў.

Мужчына прызнаўся ў крадзяжы. Крымінальная справа распачатая па ч.1 ст.377 КК Беларусі. За крадзеж бланкаў злодзею пагражае да двух гадоў пазбаўлення волі.

*БелТА*

## Жыхарка Гомеля ў 12-ы раз асуджаная за гандаль цукровым сіропам пад выглядам мёду

***Суд Гомельскага раёна вынес чарговы прысуд у дачыненні да жанчыны 1978 года нараджэння, што гандлявала «натуральным мёдам», які яна вырабляла без удзелу пчол з цукру, вады і цытрынавай кіслаты.***

Прадукт махлярка прадавала ў асноўным пенсіянерам, якія жывуць у прыватным сектары, вёсках і на дачах. Зверху ў банкі жанчына сапраўды клала натуральны мёд, а асноўны склад заставаўся нязменным — цукровы сіроп.

Як паведаміў памочнік пракурора Гомельскага раёна Раман Камянкоў, жанчына пры продажы «мёду» пенсіянерам не грэбавала і прыхапіць тое, што «дрэнна ляжыць» — напрыклад, грошы. Па сукупнасці жанчына здзейсніла дзевяць эпізодаў махлярства і пяць спадарожных крадзяжоў. Паводле прысуду ёй прызначана пакаранне ў выглядзе двух з паловай гадоў пазбаўлення волі.

Раней абвінавачаная ўжо 11 раз паўставала перад судом за махлярства і крадзяжы. Апошнія яе тэрміны былі за «мёд». На судзе яна патлумачыла, што не ўмее рабіць нічога іншага, акрамя як «варыць мёд» і прадаваць даверлівым пенсіянерам.

На свабодзе пасля выхаду з турмы жанчына доўга не затрымлівалася. Да прыкладу, вызваліўшыся ў жніўні 2014 года, ужо восенню таго года яна пачала здзяйсняць махінацыі з мёдам. 9 студзеня 2015 года гамяльчанка зноў была асуджаная, і зноў за продаж цукровага сіропу. У сакавіку 2016 году — новы прысуд за «мёд». *БелаПАН*

ГУМНО ГІСТАРЫЧНАЕ:

(Аб чым бы пісалі Гомельскія Навінкі, калі б яны з'явіліся не ў 2007 годзе)

# Пані-садыстка з Мазырскага павета: ад учынкаў Ганараты Стоцкай з Рэмезаў кроў стыла ў жылах сучаснікаў

***Летам 1835 года невялікі маёнтак Рэмезы Мазырскага павета трапляе ў поле зроку губернскага кіраўніцтва. У Мінск прыйшла скарга на дзеянні памешчыка Бярнарда Стоцкага. Яго кіраванне былым езуіцкім маёнткам Рэмезы, гаварылася ў скарзе, вядзе да спусташэння як самога ўладання, якое належала яго цешчы Тэклі Багушовай, так і мясцовых сялян.***

Памешчыцкія сяляне да адмены прыгоннага права ў 1861-м былі самай бяспраўнай часткай насельніцтва Расійскай Імперыі, часткай якой у тыя часы была Беларусь. Уласнікі маглі іх прадаваць, закладаць, дарыць, абменьваць, біць бізунамі і ссылаць. Панскае самавольства практычна нічым не абмяжоўвалася, паколькі сялянам забаранялася нават скардзіцца. Але калі ўсё ж скардзіліся — улады вымушаныя былі рэагаваць. Так здарылася і ў выпадку Рэмезаў. 30 чэрвеня 1835 года мазырскаму земскаму суду было прадпісана назіраць за ўчынкамі Стоцкага, «пад асабістую адказнасць за дапушчэнне яго да супрацьзаконных дзеянняў». Аднак далей рэкамендацый справа не пайшла. Расплатаю для сялян стала павелічэнне і без таго вялізных павіннасцяў.

У пошуках мужыцкай праўды

Скаргу тую склаў селянін з Рэмезаў Сцяпан Сцепанёнак. Ён жа пераканаў аднавяскоўцаў падпісацца пад ёй. І цяпер «пажынаў плады»: аднавяскоўцы яго вінавацілі ў пагаршэнні становішча, а памешчыкі абрынулі на яго сям'ю ўвесь цяжар прыгону. Не ў стане далей трываць, 16 верасня 1835 ён пайшоў у мазырскі суд скардзіцца на жорсткасць паноў Стоцкіх.

Словы Сцяпана ўразілі маладога судовага засядацеля Заблоцкага. Ён вызваўся праверыць сведчанні і 27 верасня прыбыў у Рэмезы. Тое, што пабачыў і пачуў Заблоцкі, асабліва пра жонку Бярнарда, пані Ганарату Стоцкую, не паддавалася разуменню. Заблоцкі праз суд дамогся ад уласнікаў Рэмезаў «не прыгнятаць сялян сваіх залішнімі працамі і іншымі жорсткасцямі».




Сяляне радаваліся, Сцепанёнак стаў галоўным героем ваколіцы. Але ненадоўга. Пан Бярнард падаў апеляцыю і прымусіў адправіць у Рэмезы іншага засядацеля. Ім

стаў Макоўскі, вядомы хабарнік і ліслівец. Як вынік, нічога дрэннага выяўлена не было. Наадварот, адзначалася празмерная клапатлівасць гаспадароў да сваіх сялян. А Заблоцкага перавялі ў іншы павет.

Сцепанёнак працягваў змаганне, якое яго разарыла і прымусіла ўлезці ў вялікія пазыкі. Яшчэ двойчы справа паміж рэмезаўскімі сялянамі і памешчыкамі Стоцкімі пачыналася і вярталася на дапрацоўку з канцылярыі мінскага губернатара спачатку ў мазырскі земскі суд, а потым да ваеннага начальніка павета маёра Маліноўскага. У абодвух выпадках доказаў віны не было выяўлена. І 4 мая 1843 года мінская крымінальная палата прызнала Стоцкіх цалкам невінаватымі.

Для жыхароў Рэмезаў пачынаўся жудасны трохгадовы перыяд татальнага тэрору, варты сюжэта для фільма жахаў. Пазней жандары канстатавалі, што сваімі катаваннямі Стоцкая «прывяла ў настолькі моцнае засмучэнне і страх сялян сваіх, што яны не толькі звярнуцца на яе са скаргаю асцерагаліся, але нават аб’явіць каму-небудзь пра яе ўчынкі».

Слуга, забіты за талерку

У кастрычніку 1846 года жандарскаму падпалкоўніку Турскаму трапіў на стол данос. Аўтарам яго быў святар праваслаўнай Рэмезаўскай царквы Якаў Радзевіч. Ён паведамляў, што 29 верасня Ганарата Стоцкая забіла свайго 13-гадовага слугу Івана Лаўрэнава Каваля. А ўначы 2 кастрычніка цела яго таемна пахаваў на вясковых могілках муж Стоцкай — Бярнард. Характэрна, што святар адразу звярнуўся да жандараў, а не пісаў у мазырскі суд, дзе Стоцкія мелі «руку». 17 кастрычніка ў Рэмезы прыбыла следчая група.




Высветлілася, што толькі за два апошнія тыдні Ганарата Стоцкая закатавала дваіх дзяцей — 13-гадовага хлопчыка і 16-гадовую дзяўчыну.

Іван Каваль паходзіў з Рэмезаў і ўжо два гады працаваў у фальварку. Амаль штодня яго каралі фізічна. Не ў час прынёс ваду, павольна падаў талеркі, задумаўся — любая такая правіна каштавала 20—30 удараў розгамі ці бізуном.

Ад частага біцця Янка маркоціўся і паступова дайшоў да знясілення. 29 верасня перад абедам ён выпадкова ўпусціў талерку, за што, па загадзе Стоцкай, атрымаў 20 розгаў. Увечары пані загадала хлопчыку падаць вады. Але ёй падалося, што Янка зрабіў гэта занадта марудна. Стоцкая ўдарыла хлопчыка па галаве. Калі той упаў на падлогу, памешчыца, задыхаючыся ад злосці, пачала біць яго нагамі. Трохі супакоіўшыся, загадала Івану падняцца, але той, з-за моцнага болю ў левым баку, не змог. Пані загадала паставіць яму пяць піявак, але ноччу Янка памёр. Тры дні яго цела праляжала ў доме Стоцкіх, пакуль уначы не было пахавана на вясковых могілках.

«Скачы, уража, як пан кажа»

Памешчыца Ганарата шукала найменшай нагоды, каб караць прыгонных: за смех, за размовы, за сустрэчу са сваякамі без дазволу… Яна ўвесь час выдумляла новыя зачэпкі. А яе любімым пакараннем было збіццё чалавека розгамі, вымачанымі ў салёнай вадзе. Колькасць удараў даходзіла да ста. Спецыяльна для гэтага пакарання ў маёнтку быў абсталяваны пакой з прымацаванымі да столі і падлогі жалезнымі кольцамі. Распранутага пакутніка падвешвалі на верхніх кольцах скуранымі лейцамі. Да ніжніх мацавалі ногі. Следчыя адзначалі, што Стоцкая збівала ахвяр, пакуль яны не страчвалі прытомнасць: «Наносіла пабоі палкаю, бязменам і, якой бы ні трапілася ёй на вочы, цвёрдай прыладай, нават нажом па галаве, спіне, руках і нагах; не здаволь-

# Пані-садыстка з Мазырскага павета: ад учынкаў Ганараты Стоцкай з Рэмезаў кроў стыла ў жылах сучаснікаў. Працяг

ваючыся гэтым, кусала зубамі цела, душыла рукамі за глотку і ціснула нагамі і каленямі грудзі і страўнік; …накладала на шыю жалезныя ланцугі і замыкала на прабой, убіты ў сцяну, ліла за шыю кіпень, цягала за ногі па пакрытай лёдам зямлі на аголенай задняй частцы цела, ад чаго здзіралася да крыві скура, загадвала есці здохлых п'явак, паліла распаленым жалезам цела, загадвала ў сваім пакоі танцаваць, прамаўляючы няспынна: «Скачы, уража, як пан кажа».

«Душа мая ненаедна патрабуе помсты»

Любімай пакаёўкай Стоцкай была 16-гадовая Аўдоцця Цімашчэнкава, якая праслужыла ёй шэсць гадоў. Памешчыца любіла дзяўчыну: тая бездакорна выконвала абавязкі, мела чароўны тварык і пакорліва трывала штодзённае трохразовае пакаранне розгамі — ад 50 да 200 удараў. Усё цела пакаёўкі было ў сіняках і драпінах, і нават галава ў некалькіх месцах мела крывавыя раны, але біць па дзявочым тварыку памешчыца ніколі не дазваляла.

Пасля забойства Янкі Стоцкая з усёй нездаровай апантанасцю абрынулася на дзяўчыну. Сачыла за ёй, некалькі разоў заўважаючы, як на яе паглядае любімы служка памешчыцы — фурман Кастан Амбросіеў, які на яе загад катаваў прыгонных сялян.

Аднойчы Кастан разбудзіў Аўдоццю пасярод ночы і загадаў ісці да пані. Дакументы таго часу апісваюць жудасную сцэну: «…прынесены быў вялізны запас вымачаных у салёнай вадзе розгаў, і, нарэшце, уведзена была ў адной кашулі, босая, дрыжачая ўсім целам і бледная, як смерць, шаснаццацігадовая «злачынка». Стоцкая ласкава і далікатна пагладзіла яе па галаве і, злёгку прытрымліваючы за руку, ціхім і пакорлівым голасам прынялася ўгаворваць дзяўчынку, якая апусцілася пры ёй на калені, каб яна не плакала, не прасіла літасці, але цярпліва і пакорліва перанесла пакуты, якія яе чакаюць, гаворачы ёй, што яны нішто ў параўнанні з тымі пякельнымі пакутамі, якімі яна абавязана яе прыгожаму тварыку і якія невыносна раздзіраюць яе душу з той хвіліны, калі ўпершыню адчула яна атруту рэўнасці…» Потым на загад вар'яткі-памешчыцы Аўдоццю пачалі біць розгамі — як мага радзей і мацней. Калі яна страчвала прытомнасць, Стоцкая давала ёй вады і апраўдвалася: «Я цябе берагла і любіла, як дачку, а зараз душа мая ненаедна патрабуе помсты і атрымлівае асалоду ў ёй: я нявольная ўправіцца з сабою». Дзяўчыну смяротна скалечылі розгамі. Яна памірала сем дзён, лежачы на халоднай падлозе, Стоцкая час ад часу яе наведвала. Дзяўчына сканала ад выкіду кішак, і яе нежывое цела перацягнулі ў лядоўню.

«Лепш спаліць яе цела»

Паўстала патрэба схаваць сляды злачынства. Праз тры дні, позняй ноччу, фурман Кастан са сваімі гаспадарамі здзейсніў жудасную справу. Яны пасеклі цела Аўдоцці, паклалі ў мех і прыхавалі ў загадзя выкапанай тут жа — у лядоўні — яме.

Праз чатыры дні пасля таго мех адкапалі і выцягнулі на двор, дзе ўжо кіпеў вялізны кацёл. Пані загадала Кастану кінуць у яго парэшткі Аўдоцці, зварыць і аддаць сабакам і свінням. Аднак Бярнард, даведаўшыся пра гэты план, назваў яго «дурным»: «Свінні і сабакі могуць разнесці косткі. Лепш спаліць яе цела».

Ганарыта пагадзілася. Кастан з панам вывезлі парэшткі Аўдоцці ў бліжэйшы лес і спалілі. Калі вогнішча прагарэла, яны патаўклі косткі, што не згарэлі, на дробныя кавалачкі.

Калі жандары пачалі дазнанне, фурман Кастан добраахвотна прызнаўся ў цяжкіх злачынствах, здзейсненых ім па загадзе сваёй пані. Была выяўлена яма ў лядоўні, дзе яны хавалі цела Аўдоцці, кацёл, у якім яно варылася, і месца яго спалення, дзе былі знойдзеныя дробныя фрагменты чалавечых костак.

Бярнард Стоцкі, не ведаючы пра прызнанні Кастана, спрабаваў перакласці ўсю віну на жонку: «Яна падвяргала пакутам і катаванням людзей. Няхай яе арыштуюць, яна ва ўсім злачынца і не мае права на маё шкадаванне». Калі ж даведаўся, што з'яўляецца адным з абвінавачаных, пачаў маліць аб прабачэнні, угаворваць следчых прызнаць яго адной з ахвяраў яго жонкі, якой ён, пад пагрозаю пакарання, баяўся запярэчыць. Нечакана ў часе следства Бярнарда разбіў паралюш.

Ганарыта ж Стоцкая, асуджаная да катаргі, атруцілася ў турме. Але памяць пра «мазырскую салтычыху», якая катавала ўласных сялян, надоўга засталася ў памяці жыхароў маёнтка Рэмезы.

*Васіль Герасімчык, Гісторык. Скончыў Гродзенскі ўніверсітэт, магістратуру Расійскага дзяржаўнага гуманітарнага ўніверсітэта і Торунскага ўніверсітэта імя Мікалая Каперніка.*

# Мінгандлю прыпыніў працу сямі фірмовых крам «Спартака»

***Часова прыпыненая праца сямі фірмовых крамаў кандытарскай фабрыкі «Спартак» — чатырох у Гомелі і трох у сталіцы.***

Падчас праверкі інспектары зафіксавалі парушэнні па асартыменце айчыннай прадукцыі, афармленні цэннікаў і наладках касавых апаратаў. Таксама пакупнікам паведамлялася недакладная інфармацыя пра зніжкі і акцыі. Зрэшты, радыкальных мер, на думку кантралёраў, можна было пазбегнуць, калі б фабрыка своечасова ліквідавала ўсе недахопы.

«Прадпісаннем Міністэрства гандлю было дадзена больш за 10 дзён кіраўніцтву «Спартака» прыняць вычарпальныя меры па ліквідацыі выяўленых парушэнняў. Парушэнні не былі ліквідаваны. Учора толькі былі пададзены дакументы аб ліквідацыі парушэнняў. Будзе прызначаная кантрольная праверка, пасля якой пры пацверджанні фактаў ліквідацыі парушэнняў будзе разгледжана пытанне аб адкрыцці гэтых крам», — паведаміў Аляксей Баярын, начальнік тэрытарыяльнага аддзела кантролю гандлёвай інспекцыі па Гомельскай вобласці.

У некаторых крамах кантрольныя праверкі ўжо прайшлі. У Міністэрстве не выключаюць, што гандлёвыя аб'екты адкрыюцца ў найбліжэйшы час.

*ont.by*




# Гісторыя пад спайсам: гомельскіх студэнтаў выкралі невядомыя ў масках

***У той вечар жыхары гомельскай шматпавярхоўкі выклікалі міліцыю. Прычынай іх турботы сталі падлеткі, якія вельмі моцна шумелі ў пад'ездзе.***

Калі праваахоўнікі прыехалі, на лесвічнай пляцоўцы апошняга паверха ляжалі двое збітых хлопцаў. Побач валяліся наркотыкі. Але хлопцы запэўнівалі, што тут ні пры чым і наогул яны пацярпелыя. Нібыта іх выкралі невядомыя ў масках. Павезлі на чорным джыпе ад будынка ўніверсітэта, прывезлі ў незнаёмы пад'езд, збілі, а потым падкінулі наркотыкі.

Студэнты-другакурснікі настойліва прытрымліваліся ўласнай версіі, але пасля следчага эксперыменту прызналіся. Аказалася, што ў пад'езд шматпавярхоўкі яны забрылі, каб ужыць спайс. Праз дамафон дзверы адкрылі самі жыхары. Хлопцы падняліся на апошні паверх. Дзверы на тэхпаверх былі не зачынены, і студэнты ўладкаваліся на лесвічнай пляцоўцы. Адурманеныя, яны сталі гучна смяяцца, уставалі на ногі і падалі, біліся аб сцены. Адсюль і сінякі на іх целах і тварах.




Як распавёў старэйшы следчы 1-га следчага аддзялення Гомельскага гарадскога аддзела Следчага камітэта Святаслаў Літвінаў, крымінальная справа перададзена ў суд. Аднаго студэнта абвінавачваюць у захоўванні наркотыкаў, другога за ўжыванне спайсаў прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці.

*Таццяна Заваротная*

# БАБКА

1) ЗАШКВАРЫЦЬ САЛА 150 г
ПАДСМАЖЫЦЬ НА ІМ 2 ЦЫБУЛІНЫ

2) БУЛЬБУ 0,5 кг НАДРАЦЬ НА ТАРЦЫ

3) УСЁ ЗМЯШАЦЬ, ДАДАЦЬ МУКУ, СОЛЬ, ПЕРАЦ, ЯЙКА
1 СТ. Л.

4) ЗВЕРХУ ПАКЛАСЦІ КАВАЛАЧКІ МАСЛА
ЗАПЯЧЫ



45хв. 190°C

ПАДАВАЦЬ ГАРАЧАЙ СА СМЯТАНАЙ



МАЛЯВАЛА КСЕНІЯ КАЧАВАНАВА

УСЕ СУВЕНІРЫ НА ARTSOUVENIRS.BY

ПРОСТАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЕЖА

M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі за май 2016»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2015"

Надрукавана на папяровай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
**vk.com:** gnavinkicom
**facebook.com:** spravavodstva

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

M&S MEDIA